# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 35 (1279) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 31 ЖНІЎНЯ 1980 г. ЦАНА 2 зл.


IX З'ЕЗД БГКТ

## ДЛЯ ЎМАЦАВАННЯ БРАЦКАГА СУЖЫЦЦЯ

Прадстаўнік грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў **Станіслаў Дэм'янюк** у сваім выступленні выказаў падзяку за запрашэнне да ўдзелу ў з'ездзе і склаў пажаданні плённых вынікаў у працы з'езда і далейшай дзейнасці нашай арганізацыі.

Затым С. Дэм'янюк зачытаў ліст дырэктара грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў Ежы Зарэмбы да IX Краёвага з'езда БГКТ:

*Шаноўныя дэлегаты!*

*Складаючы пажаданні плённай нарады, хачу падкрэсліць, што падобна як дагэтуль будзем далей дапамагаць таварыству ў яго дзейнасці.*

*Чарговы Краёвы з'езд дэлегатаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства з'яўляецца не толькі важнай арганізацыйнай падзеяй. Дае ён нагоду падсумаваць дасягненні за мінулыя чатыры гады і на гэтай падставе намеціць праграму далейшай дзейнасці.*

*Ваша таварыства можа ганарыцца вялікімі дасягненнямі ў справе задавальнення культурных патрэб сваіх членаў і ўмацавання сувязей брацкага сужыцця насельніцтва беларускага паходжання з польскім насельніцтвам.*

*Трэба падкрэсліць тое, што актыў таварыства цэніць патрэбу спалучэння культурна-асветнай дзейнасці з ідэйна-выхаваўчай працай членаў для дабра пабудовы развітога сацыялістычнага грамадства, для дабра ўмацавання нашай супольнай Айчыны — Народнай Польшчы.*

*Упэўнены я, што вызначаныя цяперашнім З'ездам напрамкі далейшай дзейнасці будуць садзейнічаць яшчэ больш поўнаму ажыццяўленню статутовых заданняў таварыства, будуць служыць выкананню Праграмы VIII з'езда Польскай аб'яднанай рабочай партыі.*





*Прайшла навальніца...*

*Фота В. Рудчыка.*

## УСПАМІНЫ бабулі

Калі ўспамінаю мінулыя гады гітлераўскай акупацыі, трагедыю нашай сям'і ў 1942 годзе, бачу вобраз загінуўшых жыхароў Волькі Тэрахоўскай, якая расселася, схаваўшыся за шумлівай сцяной лесу над савецкай граніцай. Гэта ўжо гісторыя. 22 жніўня мінула 38 гадоў ад тых страшных дзён. Таму менавіта сёння хачу апісаць долю бабулі Анны Зінчук, на біяграфіі якой тая сумная жнівеньская раніца назаўсёды пакінула след.

— Ноччу 22 жніўня 1942 г. Вольку Тэрахоўскую акружыла моцнае кальцо гітлераўскіх карнікаў. Калі пачаў ўставаць дзень, па вёсцы праляцела рэха звана-сігнала. Усім стала вядома, што немцы склікаюць жыхароў вёскі на сход. Было загадана з'явіцца ўсім мужчынам ва ўзросце звыш 14 гадоў на плошчы. Мой муж Хведар, — працягвае бабуля, — супольна з салдатам савецкай арміі Уладзімірам Харытонавым, якога мы хавалі пасля таго, як ён уцёк з палону, і сынам Косцем кідаюцца ўцякаць у лес. Аднак не змаглі прарвацца, навокал гітлераўцы. Усе трое трапляюць на плошчу. Нямецкі афіцэр чытае прозвішчы: Уладзімір Харытонаў, Хведар Зінчук, Канстанцін Зінчук... выступіць. Было вычытана яшчэ тры, чатыры прозвішчы.

Пачаўся допыт. Асноўнае пытанне паўтаралася: дзе партызаны? Усе маўчалі. Пайшлі ў ход гумовыя палкі. Маўчанне. Гітлераўцы вылазілі са скуры. Асабліва білі Уладзіміра Харытонава. Кроўю заліваўся 22-гадовы хлапец. Нават голасу не падаў. Нічога не дабіўшыся, немцы кінуліся на апошняе — расстрэл. Жнівеньскую раніцу сустрэла рэха выстралаў. Шасцёра ўпалі, скошаныя аўтаматнай чаргой. Мне назаўсёды ўрэзаўся ў памяць вобраз смерці Валодзі Харытонава, — расказвае, выціраючы слёзы, Ганна Зінчук. — Калі першая куля трапіла ў савецкага салдата, ён, акрываўлены, падымаецца яшчэ на ногі і, плюнуўшы ў твар гітлераўскаму кату, гаворыць: „Гляньце, як рускія людзі ум...". Не скончыў. Чарговая куля абрывае маладое жыццё.

Немцы не дазволілі пахаваць забітых, ды нягледзячы на гэта мы іх пахавалі. Не было тут спачатку ніякай магілы. І толькі пасля вызвалення жыхары вёскі адзначылі месца смерці сваіх блізкіх. Зараз тут стаіць помнік-сімвал, а ў гадавіну перамогі грамадства Чаромхаўскай гміны прыходзіць сюды на мітынг, прыносіць кветкі, кладзе вянкі.

Гляджу на сумны, маршчыністы твар, сівыя валасы бабулі. Колькі гора перажыла яна! А яна працягвае:

— Пасля смерці мужа і Валодзі засталася я адна з дзеткамі. Не хацелася верыць у тое, што здарылася. Харытонава я пакахала быццам сына. Ён расказваў аб сабе, аб сваіх родных мясцінах, аб сваёй маме. Напісаў ёй два лісты, і прасіў мяне, калі б нешта здарылася з ім, пераслаць іх у вёску Варнавіна. Яго здымак і лісты я доўга хавала. Намагалася навязаць сувязь з Аннай Есаулаўнай, маці Уладзіміра Харытонава. На мае лісты не атрымала ніводнага адказу. Толькі ў канцы 1961 года, **дзякуючы Хведару Якаўлевічу** Валкавыцкаму і яго жонцы Аляксандры Іванаўне, якія прыехалі наведаць сваякоў у Польшчу, мне ўдалося звязацца з ёю. Неўзабаве атрымала я ліст, пасля другі. Маці загінуўшага салдата Уладзіміра Харытонава пісала: „Калі я атрымала ваш ліст і прачытала яго, вельмі ўсхвалявалася. Адчуваю сябе

(Працяг на стар. 4)

## ПАГЛЯДЗЕЦЬ ЗА СЯБЕ...

Якуб Міранчук пратаптаў па загонах сваёй гаспадаркі ўжо 73 гады. Зараз ён заслужаны пенсіянер. Зямлю аддаў сыну — так як калісьці сам пераняў яе ад свайго бацькі.

— Ці захацелі б вы паглядзець за сябе і расказаць нам, што вы перш за ўсё бачыце на пройдзеным вамі шляху?

Дзядзька Якуб маўчыць. Я ўжо падумаў, што ён не зразумеў майго пытання, і пачынаю болей проста яшчэ раз пытаць яго, але ён спыніў мяне рукой і кажа, што расказаць пра жыццё чалавека, пра 70 з лішнім пражытых гадоў шмат цяжэй, чым адмалаціць цэпам капу жыта. — То ж кожны дзень прыносіць штось новае, а гэтых дзён у маім жыцці было... охохо... можа нейкіх 20 тысяч, а можа і больш...

Жыве ён зараз у вёсцы Грабарка.

— Але не ў гэтай святой Грабарцы, — засцерагаецца Якуб Міранчук, — куды на Спаса з'язджаюцца людзі з усёй нашай краіны. Ёсць іншая Грабарка. Яна за Мілейчыцамі, недалёка ад вёскі Паканева.

Калі ўспыхнула I сусветная вайна, яму было 7 гадоў. Летам 1915 года, не паспеўшы нават сабраць ураджай, бацькі, паслухаўшы загады царскіх чыноўнікаў, паехалі разам з большасцю насельніцтва Беласточчыны ў бежанцы, аж у Сібір. Калі Яшка вярнуўся назад у родную вёску, бацьку давялося карчаваць поле, каб нешта засеяць, а ён, 15-гадовы юнак, замест у школу падаўся ў пастухі.

— Год часу пас я кароў, а другі год служыў у аднаго шляхціча з вёскі Пятрова, — кажа дзядзька Якуб. І быў гэта яго універсітэт па грамадскай адукацыі. Першыя пялёсткі рэвалюцыйнага бунтарства завязаліся ў яго свядомасці ўжо ў бежанцах. Там ён хадзіў у школу, там перажыў рэвалюцыйны ўздым, там зразумеў, што ўсе людзі роўныя. А тут, на службе ў чужых, даводзілася адчуваць сваю прыніжанасць. Не дапускалі яго да супольнага стала, есці давалі што найгоршае, спаць ганялі разам з каровамі...

А дома сям'я павялічвалася. Найперш нарадзілася сястра Тэкля, пасля яе — зноў сястра і зноў поп ахрысціў яе Тэкляй.

— Дзве родныя сястры і абедзве Тэклі? Як гэта здарылася? — пацікавіўся я.

— А хто яго ведае! — кажа Якуб Міранчук. — Можа кумы былі п'яныя, а можа бацюшка быў злосны на бацьку або на хроснага, ну, і запісаў другую сястру таксама Тэкляй...

У Мілейчыцах дзейнічаў раённы камітэт КПЗБ. Падпольныя яго ячэйкі існавалі таксама ў Грабарцы і Паканеве. Аднойчы напярэдадні Першамая Якуб Міранчук атрымаў загад павесіць чырвоны сцяг. Падабраў дзеля гэтага стройную альшыну, якая расла ля дарогі за вёскай Паканева.

— Пакуль я лез на яе, — расказвае, — усё яшчэ было ў парадку. Калі ж гэты чырвоны сцяг замацаваў я на вяршыні дрэва і ён вырваўся з маіх рук ды залапатаў на ветры, я ледзь паспеў выкарабкацца з балота, як пачуў, што хтосьці імчыцца на падводзе. Я — пад мост. Амаль па шыю ў ваду. І добра зрабіў, што схаваўся, бо аказалася, што

(Працяг на стар. 5)

# IV Пленум ЦК ПАРП

24 жніўня адбылося пасяджэнне IV Пленума ЦК ПАРП. Пленум выслухаў інфармацыю члена Палітычнага Бюро, сакратара ЦК ПАРП Станіслава Кані аб актуальнай грамадска-палітычнай сітуацыі ў Польшчы. На Пленуме I сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк прадставіў галоўныя грамадска-гаспадарчыя і палітычныя праблемы краіны і накрэсліў важнейшыя заданні партыі ў гэтых галінах.

Цэнтральны Камітэт прыняў таксама рашэнні ў арганізацыйных справах. З Палітычнага Бюро былі адкліканы: Э. Бабюх, Т. Вжашчык, Е. Лукашэвіч, Я. Шыдляк, са складу намеснікаў членаў Палітычнага Бюро: З. Жандароўскі і Т. Пыка. Са складу Сакратарыята ЦК ПАРП пленум адклікаў З. Жандароўскага, Е. Лукашэвіча і Ю. Пінькоўскага.

Цэнтральны Камітэт назначыў членамі Палітычнага Бюро С. Альшоўскага і Ю. Пінькоўскага, а намеснікамі членаў Палітычнага Бюро Е. Вашчука, А. Жабінскага.

Пленум назначыў сакратарамі ЦК: члена Палітычнага Бюро ЦК ПАРП С. Альшоўскага і намесніка члена Палітычнага Бюро ЦК ПАРП Э. Вайташка.

Цэнтральны Камітэт кааптаваў у склад членаў Цэнтральнага Камітэта Т. Грабскага.

У сувязі з адрачэннем ад функцыі старшыні Рады Міністраў Э. Бабюха Цэнтральны Камітэт вырашыў рэкамендаваць на гэту пасаду Ю. Пінькоўскага.

24 жніўня г.г. адбылося пасяджэнне Рады Дзяржавы. На просьбу гр. Э. Бабюха Рада Дзяржавы вызваліла яго з пасады старшыні Рады Міністраў. Адначасова Рада Дзяржавы назначыла ў склад урада гр. Ю. Пінькоўскага і даверыла яму функцыю старшыні Рады Міністраў — да прыняцця рашэння Сеймам ПНР.

Апрача таго, Рада Дзяржавы адклікала віцэ-старшынь Рады Міністраў Т. Вжашчыка і Т. Пыку, назначыла віцэ-старшынямі Рады Міністраў Т. Грабскага, Г. Кіселя (і старшынёю Камісіі планавання, адклікаючы адначасова з пасады міністра фінансаў), А. Копця, адклікаючы адначасова з пасады міністра машыннай прамысловасці, адклікала гр. Э. Вайташка з пасады міністра замежных спраў, адклікала Э. Грохаля з пасады міністра — члена Рады Міністраў, назначыла гр. Ю. Чырка міністрам замежных спраў, гр. М. Кшака — міністрам фінансаў, гр. Г. Гаўронскага — міністрам машыннай прамысловасці, гр. Е. Гаўрысяка — міністрам — членам Рады Міністраў.

24 г.м. старшыня Рады Міністраў адклікаў: М. Шчапанскага з пасады старшыні Камітэта да спраў радыё і тэлебачання; Э. Грохаля — з пасады старшыні Дзяржаўнай камісіі цэн; С. Кузінскага — з пасады старшыні Галоўнага статыстычнага ўпраўлення.

Адначасова старшыня Рады Міністраў назначыў: Ю. Барэцкага старшынёю Камітэта да спраў радыё і тэлебачання, Е. Гаўрысяка — старшынёю Дзяржаўнай камісіі цэн, праф. В. Садоўскага — старшынёю Галоўнага статыстычнага ўпраўлення.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**
**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca: RSW „Prasa—Książka—Ruch" Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku. Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15—959 Białystok tel. 232-41 w. 278, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa—Książka—Ruch" na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa—Książka—Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł, półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa—Książka—Ruch", w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli.

„Niwa" — PLISSN-0546-1960. Nr indeksu 36671. Zam. 1289. Nakład 6.500 I-3





*Помнік чэхаславацкім грамадзянам, расстраляным гітлераўцамі каля горада Баранавічы Брэсцкай вобласці.* *Фота У. Казлова і Э. Трыгубовіча.*

**Карэспандэнцыя з Гродна**

# Родныя галасы

Амаль усё ў гэтай хаце — з майго дзяцінства. І высокі, саматужнай работы стол, што наўскос адгарадзіў покуцце, і барвовы карагод вазонаў, і ладна прыбраны жалезны ложак, зашклёныя рамкі са здымкамі — усё тут, як у мае матулі. І яшчэ — цішыня.

Лідзія Сяргееўна заходзіць сюды кожны дзень. Яна палівае кветкі і, напэўна, баіцца гэтай цішыні. А я ўяўляю, як там, далёка, у хаце майго маленства, таксама палівае кветкі мая маці і таксама глядзіць на здымкі ў зашклёных рамках, і толькі голасна адбівае свой адвечны крок сіні будзільнік. Маці, напэўна, у той час не чуе будзільніка і таксама баіцца цішыні.

Найбольшае шчасце ўсіх маці — заўсёды быць разам са сваімі дзецьмі. А дзеці, як вырастуць, разлятаюцца...

У гэту невялікую ўтульную хатку часценька заглядвае вясковы лістаносец. І кожны лісцік маці або бацькі чытаюць тады ўголас, для ўсёй сям'і, для тых, хто яшчэ пры хаце. Усёй сям'ёй складаюць і адказ.

Прыйшоў аднойчы ў дом канверт дзяржаўны, з чужым почыркам і іншай, не трохкутнай пячаццю вайсковай часці. Залекацела мацярынскае сэрца, задрыжэлі рукі: „Няўжо з Валодзем нешта?.." Крыху болей месяца, як пайшоў сын служыць, і ліст ад яго пазаўчора толькі чыталі, другі салдацкі ліст. Усё, паведамляў, добра, жывы-здаровы, служба ідзе нармальна.

А весгь была, бясспрэчна, не сумнай — радаснай, неспадзяванай. Камандзір вайсковай часці, у якой служыў Уладзімір, паведамляе, што ўжо за гэты кароткі час салдат паказаў свае найлепшыя якасці савецкага воіна, дзякаваў бацькам за добрае выхаванне сына і запрашаў маці прыехаць у часць на ўрачыстасць вайсковай прысягі.

...Сурова і строга застылі салдацкія шарэнгі.

— Радавы Землякоў!.. — і маці крышку ўздрыгнула, пачуўшы сваё прозвішча, і не ўстрымалася ад слёз, калі сын дакрануўся губамі да вайсковай святасці — сцяга часці.

— Сцеражыце, родныя мае, Айчыну нашу і мір! — звярнулася потым Лідзія Сяргееўна да маладых салдат. — А мы, бацькі і маці вашы, не падвядзем на працоўным фронце — абавязак перад Радзімай ва ўсіх нас аднолькавы.

Маці стаяла побач з камандзірамі, якія маюць ордэны і медалі. Дзве ўзнагароды былі і на грудзях Лідзіі Сяргееўны Земляковай: ордэн Леніна і ордэн „Маці-гераіня".

За час службы ў войску лістаносец прынёс у дом Земляковых яшчэ два лісты з падзякай ад камандавання часці. Тройчы ўзнагароджваўся выдатны салдат водпускам і ў званні старшага сержанта вярнуўся ў родную хату. Цяпер Уладзімір — адзін з лепшых працаўнікоў Ашмянскай аўтамабільнай базы № 13.

На сваім хлебе таксама тры яго сястры: старшыя Тамара і Вера, малодшая Валя. Усе закончылі школу, усе разляцеліся з роднага гнязда, пакінуўшы маці толькі здымкі і ціхі светлы сум. А шасцёра Земляковых пакуль што яшчэ школьнікі. Толік — у дзесятым, Святлана — у восьмым, Лена і Люда — блізняты, у чацвертым, Наташа — у другім, Таня — у першым. Усе, апрача Святланы, жывуць і вучацца ў Ашмянскай школе-інтэрнаце. Усе дзеці Лідзіі Сяргееўны вучацца без троек. І яна памятае, у каго і па якому прадмету чацвёркі, ведае, каму больш падабаецца матэматыка, а каму літаратура ці гісторыя, азнаёмлена з іх дзіцячымі марамі.

Замілаванне да працы і дабрыня ў дзіцячых душах Земляковых даспявалі і даспяваюць як быццам бы самі па сабе, натуральна, падмацоўваючыся кожным словам, кожным крокам, кожным учынкам бацькоў.

Памятаю, восенню майстраваў нешта Генадзь Сямёнавіч у хлеўчуку, і яму спатрэбіўся разроблены цэмент. Ён нарыхтаваў яго ў старой бляшанай ванначцы і, пакінуўшы там кельню, пайшоў на момант у хату. Кельня адразу апынулася ў руках шасцігадовага Сярожкі. Свежай драўлянай трэскай мяшала ў карытцы і яго аднагадовая сястрычка Воля. Малыя нават і не заўважылі, як я падышоў да іх — так яны былі захоплены гэтай працай.

— І што ж гэта, дзеткі, вы тут робіце?

Яны адказалі мне ў адзін голас:

— Татку памагаем.

— А татулька што робіць?

— Хлеў для каровы будуе.

Прыйшоў Генадзь Сямёнавіч, сказаў:

— Для маці яны памочнікі яшчэ слабыя, але са мной вось увесь дзень. Гвазды падаюць і трэскі ў горбу складваюць, а як толькі адхілішся — самі майстраваць бяруцца. Апрыкрыць часам пры мне — сабраліся ды пайшлі на ферму, да маці. Тут недалёка.

Шасцёра было на руках у маці, калі ў хату да іх зайшоў старшыня калгаса і папрасіў Лідзію Сяргееўну папрацаваць некалькі дзён на ферме, пакуль знойдуць замену адыйшоўшай даярцы. Працавала тыдзень — замены не было. Працавала месяц, год... Потым другі, трэці.

У 1970-м даярку Землякову ўзнагародзілі Ленінскім юбілейным медалем „За самаадданую працу". Праз год яна стала пераможцам у раённым сацыялістычным спаборніцтве. Яшчэ праз год

**(Працяг на стар. 4)**




**Нашы рукі дзеля працы • З думкай пра высокі ўзровень (бельскі белліцэй) • У працы з моладдзю наша будучыня • У алімпійскай Маскве • Літаратурная старонка • Легенда пра Локцева • Якія мы людзі • Белавежская дуля з макам • Весткі з Бельска, Старога Ляўкова, Крываціч, Рудут, Дубіч Царкоўных, Чаромхі, Нараўкі, Гайнаўкі, Дубяжына, Кляшчэляў, Скупава • Калі ў сне выпадаюць зубы • Зёлкі • Развучваем беларускія песні.**




**Niedziela 31 VIII** — 7.00 TTR — Zajęcia wakac. sem. III. 7.20 Sem. V. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek TDC. 10.20 Antena. 10.45 Uzbekistan. 11.40 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Poczet aktorów polskich. M. Ćwiklińska. 13.15 Dla dzieci. Przygody Sindbada — jap. film anim. 13.40 Piękne głosy. E. Podleś. 14.30 W gościnie u Węgrów. Nieznane materiały ukazujące węgierską pomoc Polakom w czasie II wojny światowej. 15.00 Koncert życzeń. 15.45 Los. Dużego Lot. 16.10 Pieśni z rodowodem. 17.05 Sandokan — odc. 5 wł. film przyg. 17.55 I liga piłki nożnej. 18.50 Małe kino — Jak działa Jamniczek — film anim. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Zamek pułapka — francusko-włoska komedia sens. 21.45 Sprawozdanie z mistrzostw Polski w LA. 22.20 Brahms — Koncert fortepianowy d-moll.

**Poniedziałek 1 IX** — 13.30 TTR, RTSS — J. pol. 14.00 Chem. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Ped. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Arsen Lupin — odc. pt. Dama w kapeluszu z piórami — fr. film krym. 18.10 Równoleżnik 51 — rep. film. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. — M. Koszyc, E. Zegadłowicz — Domek z kart. 21.40 Warszawa F. Chopina — film dok. 22.20 Horyzont. 22.50 Dziennik.

**Wtorek 2 IX** — 6.00 TTR, RTSS — J. pol. 6.30 Chem. 8.10 Hist. kl. VIII. 9.00 J. pol. kl. V. 11.00 J. pol. kl. III lic. 13.25 TTR, RTSS — J. pol. 14.00 Wskazówki metod., s. III. Uprawa roślin. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Klub Seniora. 16.55 Skarbiec. 17.25 Skojarzenia. 17.45 Dom i my. 18.00 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Szalony pościg — ameryk. film anim. 19.30 Dziennik. 20.10 Do krwi ostatniej — cz. I pt. Układ — film TP. 21.10 Pilot Maresz — film dok. 21.35 Matia Bazar — pr. rozr. 22.15 Śledztwo zostało wznowione. 22.45 Dziennik.

**Środa 3 IX** — 6.00 TTR, RTSS — J. pol. 6.30 Wskazówki metod. 9.00 Fiz. kl. IV. 9.55 Praca-Technika, kl. I. 11.55 Fiz. kl. VIII. 13.30 Biolog. s. I. 14.00 Wskazówki metod. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Mat. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Jana z dżungli — film anim. 16.50 Dzień dobry w kręgu rodziny 17.15 Zawał — film dok. 17.45 Los. Małego i Express Lot. 17.55 Klub dobrej książki. 18.20 Turystyka wypoczynek. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camera. 19.30 Dziennik. 20.10 Sierżant Rutledge — ameryk. film fab. 22.05 Trybuna Literacka. 22.30 Dziennik.

**Czwartek 4 IX** — 6.00 TTR, RTSS Biolog., s. I. 6.30 Wskazówki metod. 8.10 Przysp. obr. kl. VIII i I lic. 9.00 Praca — Technika kl. II. 11.55 Nauka o czł. kl. VIII. 12.50 J. pol. kl. I—IV lic. 13.30 TTR, RTSS Mat. 14.00 Biolog., s. III. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Decyzje piętnastolat. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Magazyn bezp. ruchu drog. 17.50 Marszałek Rola-Żymierski — film dok. 18.25 Turniej reporterów. 18.50 Sonda. 19.30 Dziennik. 20.10 Van der Valk odc. pt. Rozrywka — film krym. 21.05 Pegaz. 21.50 Planeta ziemia. 22.20 Przeboje z Majorki. 22.40 Dziennik.

**Piątek 5 IX** — 6.00 TTR, RTSS, Mat. sem. III. 6,30 Biolog s. III. 9.55 Geogr. kl. VI. 13.30 Uprawa rośl. sem. I. 14.00 Hodowla zwierz. 15.15 Red. szkolna zap. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Rozmawiajmy. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Kółko graniaste — pr. dla dzieci. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Daleko od szosy odc. V pt. Pod prąd — film fab. TP. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Studio Młodych. 19.30 Dziennik. 20.10 Magic-show odc. pt. Żywioły — pr. rozr. 21.10 Studio 8. 22.45 Dziennik.

**Sobota 6 IX** — 6.00 TTR, RTSS — Uprawa rośl. sem. I. 6.30 Hodowla zwierz. 13.30 Uprawa rośl. s. III. 14.00 Hodowla zwierz. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Militaria, obronność, now. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Skakanka — pr. dla dzieci. 17.00 Studio 8. W programie m.in. 17.55 I liga piłki nożnej. 18.50 Dobranoc. 19.00 Zwierzęta, które uratował przesąd — film przyr. 19.30 Dziennik. 20.10 Michał Strogow — odc. I — francusko-rum. film przyg. 23.15 Czarna Dalia — film krym. TV USA. (ur)




**Piątek 29 VIII** — 14.50 Film ser. 18.15 Film fab. 21.00 Koncert.

**Sobota 30 VIII** — 14.35 Film fab. 15.40 Nie do wiary. 16.40 Filmy anim. 18.50 Film fab. cz. I. 20.45 Pr. muz.

**Niedziela 31 VIII** — 13.00 Film ser. 15.40 Klub podróży. 17.00 Panorama międzynar. 18.00 Koncert. 18.50 Film fab. cz. II. 20.35 Sopot — 80.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**




**Białowieża** Hotel klasy Lux — pol. 2—3. Skradziona kolekcja — pol. 4—5. Zapis zbrodni — pol. 6—7.

**Bielsk Podl.** Don Gabriel — pol. 1—2. F.I.S.T. — USA 3—5. Brat kata — NRD 6—7.

**Czyże** Panny z Wilka — pol. Nie ma dymu bez ognia — fr. 3—7.

**Hajnówka** Zerwany most — pol. Wciąż o miłości — fr. 3—5. Amator — pol. 6—7.

**Michałowo** Roman i Magda — pol. 2—3. Nie zaznasz spokoju — pol. 4—5. Kanał — pol. 6—7.

**Mielnik** Godziny nadziei — pol. 3. Placówka — pol. 6—7.

**Milejczyce** Czerwone i białe — pol. 3. Nagrody i odznaczenia — pol. 6—7.

**Narew** Wysokie loty — pol. Porwanie Savoi — pol. 3—7.

**Narew** Akwarele — pol. Szalone dni — jug. 3—7.

**Orla** Czyje to prawo — węg. Charlie Brown i jego kompania — USA 3—7.

 

## НА КУЛЬТУРНАЙ НІВЕ

# У ЯГАДНІКАХ

Ягаднікі — адна з найбольш таварных вёсак у Дубіцкай гміне. Тут 68 гаспадарак і пражывае 360 чалавек. Ягаднікі шмат разоў перамагалі ў конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“ і ва ўзнагароду атрымалі 120 тысяч злотых. Захацелі мець сваю святліцу. Людзі тут вядомыя актыўнасцю. Задумалі і ўзяліся за работу. Сабралі з гэтай мэтай пару дзесяткаў тысяч злотых добраахвотных складчын. Будынак быў гатовы на 22 ліпеня 1979 года. Пабудавалі яго ў цэнтры вёскі. 1 студзеня 1980 года ў ім адкрылі клуб прэсы і кніжкі. Пачала ў ім працаваць Марыя Харытанюк. У памяшканні ёсць вялікая плошча на культурную дзейнасць: прасторны глядзельны зал са сцэнай і асобны зал з актуальнымі насценгазетамі, у якім глядзяць тэлеперадачы. У ягадніцкім клубе „Рух“ выступалі ўжо з канцэртамі мастацкія калектывы: „Каласкі“ з Беластока, песенныя калектывы з суседніх вёсак Вітава і са Старога Корніна. Адбыліся сустрэчы з найстарэйшым жыхаром вёскі Васілём Пулаўскім і людзьмі цікавых прафесій.

Моладзь (тут існуе 30-асабовы гурток ЗСМП) арганізуе добра падрыхтаваныя танцавальныя вечарыны, на якія прыязджаюць дзяўчаты і хлопцы таксама са Старога Корніна, з Істока, Дубічаў Царкоўных, Барка, Махнатага, Старога Беразова і Гайнаўкі. У клубе актыўна працуе музычны калектыў, у склад якога ўваходзяць Васіль Куптэль (ён старшыня гуртка ЗСМП), Юры Галёнка, Уладзімір Палянцэвіч, Аляксей Куптэль і Рыгор Жукавіцкі (ён таксама таленавіты фотааматар). Іграюць яны на гітарах, арганах і перкусіі. У клубе арганізоўвае культурныя мерапрыемствы мясцовы 40-асабовы гурток вясковых гаспадынь, які ўзначальвае Яўгенія Максімчук. Адбываюцца яны з нагоды Міжнароднага дня жанчын, Дня Маці, Дня Дзіцяці і іншых нагод. Дзеці займаюцца ў мастацкім гуртку і ўдзельнічаюць у конкурсах на найлепшыя малюнкі. Пераможцы ў гэтых конкурсах атрымліваюць узнагароды, якія купляюць ім члены савета клуба (старшынствуе яму Мікалай Іванюк).

Ягадніцкая моладзь арганізавала спаборніцтвы велагоншчыкаў і тых, хто мае матацыклы і матаролеры. Сярод матацыклістаў першае месца заняў Ян Каліноўскі з Махнатага. На мотавеласіпедзе пераможцам быў Ян Федарук з Ягаднікаў і найлепшым велагоншчыкам быў Аляксей Назарук з Ягаднікаў.

У арганізоўванне культурных мерапрыемстваў ахвотна і найчасцей уключаюцца Галена Ваўрэнюк, Антаніна Сучэль, Марыя Сельвясюк, Зінаіда Красько, Ірэна Максімюк, Людміла Плева, Ірэна Карчэўская, Марыя Куптэль.

Клуб прэсы і кніжкі ў Ягадніках добра служыць тутэйшым вяскоўцам. Яны больш часу пачалі прысвячаць газетам і часопісам, а таксама кніжцы. Калі ідуць цікавыя тэлефільмы або тэатральныя спектаклі, наладжваюцца дыскусіі, багатыя цікавымі і арыгінальнымі думкамі, меркаваннямі і сцвярджэннямі. Яны тым больш цікавыя, калі ў дыскутантаў ёсць розныя погляды на выбраную тэму.

**Я. Целушэцкі**

## Без задняй думкі

### РОЗНЫЯ ПОГЛЯДЫ

У англічаніна, скандынава, француза і немца нейк спыталі: „З чаго складаецца чалавек?“

Кожны адказаў па-рознаму. Англічанін, як цвярозы рэаліст, разумеючы пытанне, як яно пастаўлена, сказаў, што чалавек складаецца з галавы, тулава і чатырох канечнасцей — рук і ног.

Скандынаў вырашыў інакш, сказаўшы, што чалавек складаецца з мяса, касцей, скуры і валос.

Француз, які лічыў падобныя адказы прымітыўнымі і грубымі, адказаў, што чалавек складаецца з розуму і эмоцый.

А немец лічыў, што яны ўсе не маюць рацыі, бо калі ўжо чалавек з нечага складаецца, дык гэта з 60 працэнтаў вады, 20 працэнтаў бялкоў, 14 працэнтаў тлушчу, 5 працэнтаў мінеральных солей і 1 працэнта вуглеводаў.

*(Старая жартоўная прыпча)*







*На I месцы сярод калектываў у катэгорыі сучаснай песні быў калектыў з Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.*

*Фота М. Шаховіча.*

## КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

### ПАДАРОЖЖА Ў КАМЕННЫ ВЕК

„Неаліт беларускага Панямоння“ — такі загаловак даў сваёй манаграфіі вядомы беларускі археолаг Міхась Чарняўскі. Неаліт, як гаворыць Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, з'яўляецца апошнім перыядам каменнага веку, які ў Еўропе пратрываў ад VI да III тысячагоддзя да нашай эры. У сваёй апрацоўцы аўтар выкарыстаў перш за ўсё вынікі ўласных разведак і археалагічных раскопак Панямоння, вывучэннем якога займаецца ён ад 1962 года. Даследаваў ён больш 150 стаянак і правёў раскопкі 11 помнікаў. Для поўнага раскрыцця ўзнятай тэмы спасылаецца на матэрыялы раскопак сваіх папярэднікаў — І. М. Цюрынай, Н. М. Гурынай. Манаграфія ахоплівае значны прамежак часу, пачынаючы з першай паловы IV да пачатку II тысячагоддзя да нашай эры.

Панямонне... Даючы фізіка-геаграфічную характарыстыку раёна, аўтар піша: „У познеледавіковы час на тэрыторыі сучаснай Верхнянёманскай раўніны быў вялікі азёрны басейн з краявымі прыледавіковымі ўтварэннямі на поўначы. Сцёк вады адбываўся, магчыма, у Палескую катлавіну праз сістэму лагчын у вярхоўях Нёмана і ў бок Віслы. Пазней азёрныя воды прамылі Гродзенскае ўзвышша і атрымалі выхад у Балтыйскае мора. Пасля гэтага пачала фарміравацца сучасная рачная сетка паўночна-заходняй Беларусі.

Тады, калі даследаванне неаліту ўсходняй Беларусі пачалося ў дваццатыя гады нашага стагоддзя і праводзіцца да сёння, калі праводзяць работы на Прыпяцкім Палессі, калі апошнім часам вывучалі Паўночную Беларусь, дык паўночназаходняя Беларусь, тая сетка, дзе ў асноўным вадазбор Нёмана, заставаўся амаль белай плямай. Гэта і лягло ў аснову зацікаўлення аўтара.

Асновай манаграфіі з'яўляюцца тры раздзелы. У першым, „Неалітычныя стаянкі“, аўтар дае падрабязную характарыстыку тэрыторыі даследавання, пералічваючы месцы раскопак і стаянак. Далей паказвае на паходжанне неалітычнай культуры, апісваючы паасобныя яе этапы і тыпы помнікаў. І ў заключным раздзеле ўзнімае тэму развіцця гаспадаркі ў неаліце і выкарыстоўвання для гэтага крэмневых прылад, а таксама спосаб іх вырабу.

Амаль палову манаграфіі займаюць ілюстрацыі — малюнкі паасобных прылад з рознага тыпу помнікаў. Гэта дае чытачу яшчэ больш поўны вобраз культуры неаліту.

**М. Шаховіч**

## АДГАЛОСКІ

### СКАРБНІЦА — АДГУКНІЦЕСЯ НА ЯЕ!

Рэдактар Мікалай Гайдук робіць каштоўную работу, збіраючы ў народзе песенны фальклор. Гэта гістарычны факт, бо амаль усе народы сабралі свае песні ў зборніках і яны не загінулі, а вось мы, беларусы на Беласточчыне, гэтага не зрабілі. І колькі ўжо прапала з нашага прыгожага фальклору! А вось М. Гайдук стараецца сабраць тое, што яшчэ ўцалела. Ён спяшаецца, бо старыя людзі паміраюць і ў магілу забіраюць тое, што ведалі.

Плён працы М. Гайдука велізарны, бо сабраў ён ужо 500 старых песень. Але гэта яшчэ не канец. Старыя песні друкуюцца на старонках „Нівы“ з нотамі. Чытачы з майго раёна (а ёсць іх 200 падпісчыкаў, і чытачы — дык усе жыхары) вельмі цікавяцца гэтай рубрыкай. Вельмі многія выразваюць з газеты песні і тут хачу падаць прыклад Анастасіі Руты з Дубіч Царкоўных. Ды людзі чакаюць зборніка-спеўніка з гэтымі песнямі, які абавязкова павінна выдаць Галоўнае праўленне БГКТ. Гэта просьба ад чытачоў Дубіцкай гміны. Я як пісьманосец найбольш пра гэта ведаю, тым больш, што я сам люблю „Ніву“, БГКТ і свой народ.

Паважаныя чытачы, калі з вас хто ведае такіх людзей, якія памятаюць старыя песні, дык паведамляйце аб гэтым у рэдакцыю „Нівы“. Прыедзе М. Гайдук з магнітафонам і запіша на плёнку цікавую песню. Дапамагайце нашаму збіральніку фальклору!

Я таксама маю гонар пахваліцца, што дапамог у сваім раёне знайсці такіх людзей. 2 жніўня М. Гайдук прыязджаў да нас у Дубічы і зайшлі мы да Зіновіі Гіль, якая праспявала каля 10 песень сваім прыгожым голасам. Потым мы паехалі ў вёску Тафілаўцы, да Івана Галко, дзе яго старая мама Усцінія Галко, 1894 года нараджэння, таксама праспявала каля дзесятка тутэйшых песень. Нас тут прынялі як самых блізкіх, і гэта сведчыць аб папулярнасці нашай мовы, звычаяў, фальклору, а таксама „Нівы“ і яе журналістаў.

Яшчэ хачу паведаміць аб тым, што ў вёсцы Тапаркі, Кляшчэлеўскай гміны, я знайшоў жанчыну сярэдніх гадоў, якая ведае шмат прыгожых песняў. Гэта Марыя Цэтра, нумар дома 17. У яе прыгожы голас.

**М. Панфілюк**

## Этнаграфічнае акенца



*Рэшткі абсталявання вадзянога млына на рэчцы Баброўнічай у вёсцы Баброва (гм. Заблудаў).*

*Фота М. Гайдука.*

## З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

# НАВАЛЬНІЦА

Пацямнела. Цёмнасіняя клубістая і растрапаная па берагах хмара, праглынуўшы сонца, расселася на паўнеба.

— Ну і хмара, проста аж гаворыць, — кажуць людзі.

А яна наступае памалу, цяжка і сапраўды, калі ўслухацца, здаецца, быццам бы там нешта стагнала, пералівалася, быццам бы некаму было цяжка. К. Машынскі ў першай частцы другога тома „Народнай культуры славян“ у раздзеле „Вераванні“ вельмі шырока затрымоўваецца над напалавіну дэманічнымі істотамі. Між іншым, успамінае пра так званых „аблочнікаў“ і „планэтнікаў“, якія шырока вядомыя на поўдні Польшчы, а таксама ў высокім і сярэднім рэчышчы Віслы і высокім рэчышчы Буга ды Днястра. Нічога не ведалі пра істоты, якія насілі або кіравалі хмарамі, у заходняй Беларусі, на Палессі і на поўначы Польшчы. Аднак, недзе год таму назад на цэнтральнай Бельшчыне, а канкрэтна ў Агародніках, Локніцы, Катлах і іх ваколіцах, удалося сустрэцца з успамінамі старых людзей аб магчымасці ўцягвання хмарамі. Што датычыць назвы гэтых істот, высніць нічога не ўдалося. Было гэта або перанесена з іншай культуры, або проста такое старое, што выйшла з памяці. Ёсць падставы лічыць, што якраз хутчэй будзе апошняе. Не без значэння і не беспадстаўна перайшлі ў народ спомненыя ў пачатку словы на акрэсленне велічыні хмары — „хмара аж говорыт“.

Спасылаючыся на К. Машынскага, „планэтнік“ — гэта вясковы чалавек, які мае тую асаблівасць, што ў час буры ці зараз жа перад ёю знікае з Зямлі або на вачах іншых бывае „ўцягнуты“ хмарай (часам вясёлкай). І гэтыя „планэтнікі“ мусілі на сваіх плячах насіць па небе хмару. Ад страшнага цяжару неаднакратна стагналі і павойквалі.

На аснове рэштак, захаваных у памяці людзей, успамінаў ды прыведзеных слоў на акрэсленне хмары можна лічыць, што гэтыя паўдэманічныя істоты выступалі ў пэўных частках Беласточчыны, а асабліва на Бельшчыне. У доказ гэтага і другая з'ява — магчымасць уцягвання людзей вясёлкай. Вядомае яно наогул на цэлай Бельшчыне. Што вясёлка мела такую магчымасць, сведчыць факт, у які вераць па сённяшні дзень, пераношванне ёй рыбы. Тое, што раптам у даным месцы, дзе раней абсалютна яе не было, паявілася рыба, якраз і прыпісваюць вясёлцы. Гэта і сведчыць аб магчымасці ўцягвання ёю.

Яшчэ гадоў дзесяць таму назад маці забаранялі сваім дзецям выходзіць на двор, калі на небе паявілася вясёлка. А ўжо абсалютна нельга было тады бегаць па вадзе. Вясёлка ў народным вераванні — гэта не што іншае як хмара, якая набірае вады.

Зяхнула маланка. Па небе пракаціўся гром. Згодна з хрысціянскай рэлігіяй — гэта святы Ілья прамчаўся па небе ў калясніцы і кінуў вогненным перуном у нячыстую сілу, што скрылася на Зямлі, каб зводзіць людзей з добрай дарогі. У час навальніцы мае яна розныя постаці і скрываецца ва ўсіх магчымых месцах.

— Ідэм мы раз з сусіэдкою з поля, аж тут бура, — гаворыць адна з інфарматарак. — Грыміт, зяхае. Позакочвалі мы саяны і ідэмо. А я чую так, як бы штось говорыло — откоті саян, откоті саян. Я откотіла, а з ёго два шчурыска выскочыло. Воны но туолькі выскочылі, а громом лясь, лясь у іх (Гародчына).

Гэты расказ якраз і паказвае на значэнне і ўласцівасці перуна ў народным вераванні з афарбоўкай, унесенай хрысціянскай рэлігіяй.

Падсумоўваючы, неабходна звярнуць увагу на ўплыў хрысціянскай рэлігіі на народнае вераванне. Назіраецца выразнае перамяшанне і — або абуміранне народнага, або пераянсенне яго ў рэлігійныя каноны, дзе застаецца яно жывым. І важнае тады толькі разгранічэнне.

**М. Шаховіч**



 

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ШТО Ў 1980 ГОДЗЕ?

У Міхалоўскай гміне сёлета правядуць сцаленне зямельных угоддзяў у Кандратках, Кітурыках, Ганчарах і Тайніцы. 70 пажылых гаспадароў пойдзе на пенсію і перадасць 342 гектары зямлі ў Дзяржаўны фонд зямлі (ПФЗ), які налічвае 1390 га. Сяляне купяць 100 га зямлі. 520 гектараў зямельных угоддзяў возьмуць у загаспадарванне сельскагаспадарчы камбінат у Міхалове і сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня (РСП) у Кандратках. Лес пасадзяць на 139 гектарах няўдобіц.

У бягучым годзе будзе арганізавана 26 спецыялістычных гаспадарак (15 з іх будзе спецыялізавацца ў жывёлагадоўлі і 11 у раслінаводстве). Усіх іх разам будзе 115. Ужо вёску Казімерава назвалі вёскай спецыялістычнай. Яна вядучая ў гадоўлі быдла і ўвогуле свойскай жывёлы. Сёлета яна заняла першае месца ў гміне ў конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“ і атрымала грашовую ўзнагароду, якую прадназначыць на агульнаграмадскія мэты тутэйшага асяроддзя.

Сяляне пабудуюць 8 абораў для кароў на агульную колькасць 120 месц, хлеўню для свіней на 200 месц, 4 стадолы і 10 сіласных ямаў (будуць гэта праязныя сіласы). Інвентарскія будынкі мадэрнізуюць сяляне з Патокі, Кабылянкі, Юшкавага Груда, Ціванюкоў, Тайніцы, Казімерава і Гозьнай. Найбольш квашанак (гэта асноўная форма кансервацыі кармоў) нарыхтуюць на зіму вяскоўцы з Казімерава, Пянькоў і Юшкавага Груда, а таксама з Шымкаў, Навасадаў, Залешанаў, Кухмоў і Ціванюкоў.

У грамадскіх пачынах будуць адрамантаваны дарогі з Навасадаў у Цісоўку і з Навасадаў у Залешаны, а таксама вуліца ў Круглым Ляску.

Міхалова пасля перабудовы вулічнага асвятлення атрымае ртутныя электралямпачкі.

### НАЙЛЕПШЫЯ ДАСТАЎЦЫ МАЛАКА

На зліўны пункт малака ў Войнаўцы ў Дубіцкай гміне дастаўляе малако 168 гаспадароў з сямі вёсак і хутароў. Штодзень прымае яго Ніна Гутковіч. Збіраецца ў сярэднім 2,5 тысячы літраў сырадою. Адсюль возяць яго на гайнаўскі маслазавод.

Мы пацікавіліся, хто найбольш прадае малака дзяржаве. На першым месцы ёсць ужо не першы год Васіль Казачук з Дубровы (дастаўляе ён каля 60 літраў малака), на другім — Серафім Міхалоўскі з Горнага Груда (53 літры), на трэцім — Аляксандра Богунь з Бобінкі (52 літры), на чацвертым — Чэслаў Аксамітоўскі з Белай Стражы (40 літраў) і на пятым і шостым месцы — Васіль Чыквін і Надзея Дунда — абое з Вярстка (па 30 літраў малака).

### ДЛЯ ДАБРА ГМІНЫ

У Міхалоўскай гміне ў грамадскім пачыне будуюць інтэрнат для міхалоўскіх рамесных школ, будынак гміннага ўпраўлення, пачакальні на аўтобусных прыпынках ПКС у Пяньках, Азяблах, Бахурах і Тапалянах. Апрача таго, жыхары гэтай гміны садзілі лес і дрэўцы паабапал дарог і вясковых вуліц. Трэба падкрэсліць, што ўся міхалоўская грамадскасць горача падтрымлівае гэтыя пачыны, бачачы ў іх канкрэтную справу для дабра ўсіх. Свой пасільны ўклад у высакародную справу пачынаў уносіць моладзь, згуртаваная ў мясцовых арганізацыях Беларускага грамадска-культурнага таварыства, ЗСМП, Лігі абароны краю, а таксама неарганізаваная моладзь.

Сёлета будзе аддадзена ў карыстанне пажарная раміза ў Бандарах, якую жыхары Бандароў і Рыбакоў будуюць у грамадскім пачыне.

### МАСЛАЗАВОД — ДАСТАЎЦАМ

Маслазавод у Гайнаўцы прадаў дастаўцам малака за мінулы год і першае паўгоддзе 1980 года 48 электрадоек „Альфа-ляваль“, 82 электрычныя „пастухі“, 198 аўтаматычных паілак і 2710 тон кармоў. Сёлета ён даставіць сялянам значна больш абсталявання і кармоў, чым у мінулым годзе. (ця)







На роднай зямлі. *Рака Нарва. Фота Я. Целушэцкага.*

## НАЙАКТЫЎНЕЙШЫЯ

Кляшчэлеўская гмінная партыйная арганізацыя складаецца з 350 членаў і кандыдатаў партыі, згуртаваных у 17 звеннях. Партыйныя арганізацыі існуюць у кожнай вёсцы і ў кожным прадпрыемстве і ўстанове ў гміне. Першы сакратар гміннага камітэта ПАРП тав. Аляксандр Смалікоўскі паінфармаваў нас аб найактыўнейшых ПОП. Да такіх належаць партарганізацыі ў Сухавольцах, Дашах, Тапарках і найбольшая арганізацыя ў гміне, 50-асабовая, пры ГС у Кляшчэлях.

У Сухавольцах 19-асабовая арганізацыя (старшынствуе ёй сакратар Сяргей Галёнка, з дзесяцігадовым вопытам у гэтай справе) з'яўляецца ініцыятарам усіх важнейшых грамадскіх пачынаў для дабра ўсіх. І не толькі ініцыятарам. Члены партыі — адданыя выканаўцы прынятых пастаноў дзеля агульнага дабра. Жыхары Сухавольцаў найперш пабудавалі святліцу (у ёй цяпер клуб „Рух“), пасля водаправод, затым тратуары (асталося толькі праклясці трылінку на ўездах на падворкі). Працавалі ўсе. Тратуарныя пліты праклалі самі. Грамадскі пачын пры пабудове вуліцы склаў суму звыш 1,5 мільёна злотых. Сухавольская ПОП пастаянна расце. Штогод прыбывае ў яе рады 2-3 кандыдаты.

У Дашах 18-асабовая партыйная арганізацыя. Дзейнасцю яе кіруе сакратар Міхал Рачкевіч. Кожны год павялічваецца яна на 3-4 членаў і кандыдатаў партыі. Члены партыі і аднавяскоўцы дружна працавалі ў партыйным пачыне пры пабудове дарогі з Дашаў у Жукі. Сяляне, члены ПАРП, гэта перадавыя гаспадары ў вёсцы, а яна па Сухавольцах адна з самых гаспадарных і заможных у гміне. Тутэйшыя земляробы зацікаўлены павелічэннем таварнай прадукцыі. Яны папраўляюць эстэтыку будынкаў і цэлых сялібаў. Таму і парадак амаль на кожным панадворку.

Пярвічная партыйная арганізацыя ў Тапарках (узначальвае яе Сцяпан Краўчук) налічвае 16 членаў. У ёй многа маладых людзей. Гэта вёска з перспектывамі развіцця. Яе жыхары (у тым ліку члены добраахвотнай пажарнай каманды) пабудавалі стражацкую рамізу. У бягучым годзе яна будзе поўнасцю гатова. Ва ўсіх справах вялікае зацікаўленне праяўляюць і сакратар партыі, і солтыс, і члены ОСП. Тут усе зацікаўлены таксама лепшымі вынікамі гаспадарання.

Найбольшая ў гміне партыйная арганізацыя пры ГС за няпоўныя шэсць гадоў павялічылася з 30 да 50 членаў. Сакратаром яе з'яўляецца Сцяпан Капэлька. Партыйцы ахвотна рэалізуюць прадукцыйныя пачыны, а таксама пры добраўпарадкаванні таварных складаў, панадворкаў на базах. ГС мае зараз паўтара мільёна злотых даходу, калі раней меў нават чатыры мільёны злотых страт.

Сёлета з нагоды Свята Адраджэння Народнай Польшчы за выдатныя поспехі ў працы і грамадскіх пачынах былі ўзнагароджаны значкамі „Заслужаны для Беласточчыны“ наступныя члены партыі: Сяргей Галёнка — гаспадар і сакратар ПОП у Сухавольцах, Віталі Шымановіч — работнік кляшчэлеўскага ПОМ, Рыгор Гапанюк — солтыс у Грузцы, Васіль Качко — намеснік старшыні ГС у Кляшчэлях, Наталля Тымашэвіч — настаўніца ў Кляшчэлях і Віталі Паўловіч — гаспадар у Кляшчэлях.

**Я. Целушэцкі**

(Працяг са стар. 2)

## Родныя галасы

— першае месца ў абласным конкурсе майстроў механічнага даення заняла. У тым жа годзе і другі ордэн — „Мацярынская слава“ — атрымала. А праз год — ордэн „Маці-гераіня“ за дзяцей і ордэн Леніна — за працу.

Працоўны стаж Лідзіі Сяргееўны Земляковай — 26 год, 12 з іх працавала ў цагельні, 14 — на ферме дойных кароў „Харонжышкі“ ў калгасе „Ясная паляна“.

...На высокім моцным стале ляжаць вялікія халодныя антонаўкі. Земляковы частуюць мяне гэтымі яблыкамі.

— Свае, не купленыя, спрабуйце, — запрашае Лідзія Сяргееўна. — Хоць і невялікі садок, але яблыкі ладныя былі, сакавітыя. Дзецям пасылаем і сабе хапае.

...Дзеці глядзяць на нас са здымкаў. І маці глядзіць на сваіх дзяцей. І чуе іх галасы. Сярод тысячы галасоў пазнае яна голас свайго Толіка, голас свае Веры, голас свайго Сярожы — кожнага са сваіх дванаццаці. І я думаю, што Лідзія Сяргееўна заходзіць сюды кожны дзень не толькі дзеля таго, каб паліць кветкі, але каб пагутарыць з дзецьмі.

Як і мая маці.

Як і ўсе маці на свеце.

**Г. Праўда**

(Працяг са стар. 1)

## Успаміны бабулі

зараз вельмі дрэнна. Сваю бяду забуд толькі тады, калі засну. Гляджу на здымак сына і слёзы лью. Я яго выхоўвала ў нястачы, без бацькі.“

Салдата Уладзіміра Харытонава вайна застала на чыгуначнай станцыі Нурэц. Гарматны полк, у якім ён служыў, прыняў на сябе першыя баі. Барацьба была цяжкая і няроўная. З палка неўзабаве засталася невялікая група. Уцалеўшыя салдаты намагаліся прарвацца да сваіх. Харытонаў з аднапалчанінам Суславым трапілі ў палон. Пачаткова трымалі іх у Чаромсе, пасля адправілі пад Варшаву. Хлопцы ўцяклі, па дарозе загінуў калега Харытонава Суслаў, а яго самога прынялі жыхары Волькі Тэрахоўскай. Аднак знайшліся здраднікі, якія брахнулі немцам. І злажыў сваю галаву савецкі салдат, які ў памяці людзей запісаўся як герой.

Так канчаецца сумная трагедыя Волькі Тэрахоўскай. Так канчаецца расказ бабулі Ганны, 82-гадовай жыхаркі вёскі.

**Ул. Сідарук**

## ці ведаеце, што...

У 1979 годзе ў Кузніцкай гміне пражывала 5638 асоб, у тым ліку 2841 мужчына і 2797 жанчын (для параўнання, у 1978 годзе ўсяго насельніцтва тут было 5684 асобы).

Цяпер у Кузніцы ёсць Дом культуры, кнігарня, прадшколле, аптэка, асяродак здароўя, ГС, спулдзельчы банк, філіял СКР, прадпрыемства віклінярскай прадукцыі. (яц)

### БУГ У АГНІ




Ішлі мы лясной дарогай, якая спалучае Слохі Аннапольскія і Турну Малую.

— Ужо недалёка, — заявіў Аляксандр Лучко і яшчэ болей уважна пачаў узірацца ў левую сцяну лесу.

— Я гэта добра памятаю, — сказаў Пятро Плаксей, — дот **„Чорны“** знаходзіўся зусім блізка ад гэтай дарогі, метрах у 50-70 ад яе.

Сапраўды, неўзабаве з левага боку вузенькай лясной дарогі пасвятлела. Мы апынуліся на невялікай лясной паляне, пасярэдзіне якой знаходзіўся астравок паўвекавых сасонак.

Пятро Плаксей, найвышэйшы сярод нас мужчына, глянуў у гэты бок і апавясціў нам:

— Вось дзе ён схаваўся за соснамі, наш дот „Чорны“!

І, не чакаючы нашага адказу, амаль подбегам накіраваўся ў бок гэтага зялёнага астраўка, дзе ў глыбокім катлаване, заросшым дрэвамі і ялоўцам, тырчалі сапраўды чорныя сцены разбуранага доўгатэрміновага цэнтра абароны.

Я астаўся крыху ззаду, на ўскраіне гэтай лясной паляны. Здзівіла яна мяне тут сваім нечаканым паяўленнем. Найперш падумаў я, што гэта нейкі зруб, якія часта зараз сустракаюцца ў нашых лясах. Але не было тут відаць ані пянькоў, ані іншых слядоў дзейнасці чалавека. Стаяў я на ўскраіне гэтай паляны, любаваўся нейкімі невядомымі для мяне ляснымі кветкамі, жоўтага і блакітнага колеру ды думаў: *„Адкуль узялася гэтая лясная паляна, чаму яна не зарасла лесам, як усё навокал між Турнай і Слохамі?“*. Я ведаў, што ў 1941 годзе салдаты расчысцілі тут лес, каб было месца для збораў і абучэння, каб маглі яны абсталяваць рухомыя мішэні для стральбы з розных відаў зброі. Але было гэта 40 гадоў таму назад і за гэты час паляна ўжо зарасла б лесам, як усё іншае навокал. Аднак лесу тут не было. Толькі рэдкія кусцікі ядлоўцу, мох пад нагамі і верас, які неўзабаве ўквеціць гэтую паляну блакітным дываном...

— Што вы там цікавага знайшлі? — аклікнуў мяне Іван Васілюк, селянін са Слохаў. Я ўздрыгнуў, быццам спрасоння, і пабег у дот. Як і ўсе іншыя абаронныя пункты над Бугам, быў ён разбураны, палохаў абломкамі жалезабетонных сцен і вострым шчэбенем са спецыяльна бітага каменя, які сюды звозілі, кажуць, аж з Уральскіх гор...

Пятро Плаксей знаходзіўся ўжо ў сярэдзіне. Адчуваў сябе тут, як дома. Паволі, уважліва, як гаспадар, які вяртаецца дамоў з далёкага падарожжа, акінуў ён позіркам закопчаныя сцены, павёў вачыма па прабоінах, у якіх калісьці памяшчаліся гарматы і кулямёты, ды накіраваўся ў цеснаваты засценак за жалезнай рамай, у якой замацаваныя былі браніраваныя дзверы.

— Вось ён і ёсць, гэты агрэгатны адсек, у якім мы схаваліся, калі немцы пачалі пампаваць у дот нейкае гаручае, каб нас падарваць.

— Што? Што? — зацікавіўся Іван Васілюк, які недачуў Плаксеевых слоў.

— Кажу, — паўтарыў Пятро Пятровіч, — што тут знаходзіўся матор, якім

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, хачу апісаць табе сваё жыццё, пажаліцца, мо лягчэй стане. Няма ў мяне маці, рана памерла, дык і няма перад кім пабедаваць, да каго за дапамогай ці радай звярнуцца. Выйшла я замуж маладая, як толькі школу закончыла, у 19 год. І не з кахання вялікага, як гэта маладыя дзяўчаты пераважна выходзяць. Мой муж — гэта сын бацькавага сябры. І бацька мой і гэты калега выпіць любяць, ды пастанавілі нас з сабой пазнаёміць. Аднойчы прыйшлі да нас з ім. Адразу я яму спадабалася. Дзень у дзень прыходзіў. А мне ён — от так сабе. Бацьку то ён спадабаўся, бо і чвэртку час ад часу вып'юць разам, а мачыха ўсё й прыгаварвала, што замуж ужо пара. Так хутка мы і пажаніліся. Не скажу, што дрэнны ён. Спакойны, паслухмяны і закаханы ўва мне. А я таксама да яго прывыкла. Бацькі яго далі нам пакойчык. А з кухні цёшчынай я карысталася. Спачатку і задаволена была, што выйду са сваёй хаты, дзе была я непатрэбнай. Адчувала ж гэта на кожным кроку. Але суседзі цесцяў мяне папярэдзілі, што цёшча баба ліхая. Але я не вельмі перaймалася, я ж і дома роскашы не мела, дык не думала, што тут горш будзе. Але сапраўды жыць немагчыма. Цёшча да ўсяго ўмешваецца, усё ёй не падабаецца. То не так зварыла, то не тое купіла. А калі нарадзілася дзіця, дык чапляецца, што я дзіцяці не патраплю дагледзець. Злая, надзьмутая ходзіць. А я водпуск бясплатны ўзяла, гляджу сынка, як магу. Але спакой маю толькі, калі цёшча на працы, а як толькі прыйдзе дамоў — зноў пачынаецца. А мужу ўсё можна і ён добры. Ён пачаў і ў кілішак часцей заглядаць, як калісь. Але цёшча кажа: нічога, ён жа працуе, то і выпіць можа. Не магу я ўжо знесці гэтага ўсяго. Казала мужу, каб пастараўся з работы кватэру. Есць такая магчымасць. Але яму не хочацца ад мамы выходзіць. Тут выгадна яму, аб нічым не клапоціцца. І што мне, беднай, рабіць?..

Крыся з Б.

**Крыся!** Калі такія адносіны цёшчы да цябе, дык вам аддзяліцца ад яе неабходна. Тым больш, калі ёсць магчымасць атрымаць кватэру. Дамагайся ад мужа катэгарычна, каб гэту справу аформіў. А калі не, дык сама пайдзі. Думаю, там цябе зразумеюць і памогуць. А калі будзеце жыць асобна, вазьміся за мужа. Не даруй гэтых п'янак. Калі будзе піць часта, прымусь, каб лячыўся. Калі спакойны, паслухмяны ды закаханы, дык можа ўдасца. Ён малады і, калі не спыніць гэтых папоек, уцягнецца і тады ўжо будзе справа цяжэйшая.

**Сэрцайка**

# Вер-не-вер

Астроне, сніцца мне, што задумала я купіць сабе чорную хустку. Хай на ўсялякі выпадак будзе ў хаце! Зайшла я ў краму, у якой прадаваліся хусткі. Прадаўшчыца падала мне чорную хустку, але яна мне не вельмі спадабалася. І я не ведала, купіць яе, ці не. І ў гэты момант каля мяне з'явілася цёшча, яна нядаўна памерла, і кажа: „Не бяры ты гэтай хусткі, ёсць прыгажэйшыя. Я куплю і табе і сабе". І пайшла прадаўшчыца шукаць гэту хустку. Але ўжо не вярнулася назад. І цёшча таксама прапала. Што абазначае гэты сон? Усе гавораць, што чакае мяне дрэннае, і гэта мяне вельмі непакоіць.

Надзя

**Надзя,** хаця нябожчыцу сніць — наогул справа нядрэнная і павінна была б абазначаць для цябе спакой, то ў гэтым кантэксце сон усё ж дабра не прадвяшчае. І здаецца мне, што хусткі тыя, якія мела купляць сабе і табе твая цёшча, хоць і яна і прадаўшчыца прапалі, могуць абазначаць, што памрэ нехта блізкі табе і ёй, чаго ніяк табе не жадае

**Астрон**



# Фальклор

## Жніўная




*Мала пташына, нэвэлікая по дорожэньцы скачэ —*
*дурна дiўчына, розуму нэма, што й по кавалеру плачэ,*
*дурна дiўчына, розуму нэма, што й по кавалеру плачэ.*
*Ой, нэ я плачу, ой, нэ я тужу — самі слёзонькі льюццэ —*
*од міленького лісточку нэма, од нэлюбого шлюццэ,*
*од міленького лісточку нэма, од нэлюбого шлюццэ.*
*Ой, прышлі, прышлі, мой мілы, лісток, хоть чэрэз трое людэ —*
*ой, нэхай жэ мніе од матуленькі догановькі нэ будэ.*
*ой, нэхай жэ мніе од матуленькі догановькі нэ будэ.*

Ад Раісы Чэрнякевіч, 1896 г. нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў 11 чэрвеня 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

(Працяг са стар. 5)




прыгледзеўся да яго і кінуў пад ногі. Тое самае паўтарылася і ў другой дзірцы. Пасвяціў яшчэ сабе запалкаю, але яна хутка згасла.

— Няма, — ледзь чутна і толькі для сябе прашаптаў Пятро Плаксей, а я ўжо далей не змог паўстрымаць сваёй цікаўнасці.

— Чаго шукаеце, Пятро Пятровіч? — запытаў я.

— Гэтага, на жаль, я вам сказаць не магу, — рашуча адказаў даўнейшы воін і, каб не дапусціць на гэтую тэму якіх-колеч спрэчак, ён яшчэ дадаў: — І нікому гэтага я не скажу.

Ну што ж, падумаў я, кожны чалавек мае права да захавання таямніцы. Не магу я адмаўляць гэтага і майму герою. А ўсё ж Плаксеева загадка яшчэ доўга мучыла мяне і я двойчы прабаваў пацягнуць яго „за язык", але ўсе спробы аказаліся беспаспяховымі.



*Вось ён, палітрук 3 роты, Васіль Локцеў, якога немцы расстралялі недалёка ад дота „Чорны". Фатаграфія друкуецца ўпершыню. На яе адвароце можна прачытаць: „Астапу А. И. и Акулине. 12.9.1932 года. В. Локтев.*

Мы пакінулі развалiны дота „Чорны". Ля выхаду з ніжняга паверху штосьці захрусцела ў мяне пад нагамі, на што я раней не звярнуў увагі. Пахіліўся, разгарнуў пясок і шчэбень, пальцы закранулі нешта вострае. Аказалася, што мы таптал бронзавыя гільзы ад вінтовачных і кулямётных патронаў. Усе яны былі паразрываныя ад агню і выбуху. Ляжалі тут ужо амаль 40 гадоў і надалей астаюцца мёртвым доказам чалавечай трагедыі, удзельнікам якой быў Пятро Пятровіч Плаксей з горада Перм і яго таварышы з іншых мясцін вялікага Савецкага Саюза. Пазбіраць бы гэтыя абломкі патронаў, ачысціць ад бруду і зялёнай іржы ды памясціць іх у нейкім музеі...

Набраў я поўную жменю гэтых паразрываных куль, гляджу на іх і думаю: што мне з імі зрабіць, куды падзець?

— Тут знаходзіўся запасны выхад з дота, а побач яго — гняздо для кулямётаў. Таму тут так многа гэтых куль,— паясніў Пятро Плаксей і накіраваўся на сярэдзіну лясной паляны. Мы таксама вылезлі наверх, закурылі і моўчкі назіралі здалёк за яго паводзінамі. Ён пару крокаў падышоў у адзін бок, павярнуўся назад, спыніўся, адвярнуўся да нас плячыма, хвіліну стаяў нерухома — адзін, плячысты, здаравенны чалавек, быццам нейкі помнік. Раптам пахіліў галаву, зняў капялюш і сягнуў рукой за хусцінкай.

Усё гэта не прадаўжалася і пяць мінут. Пятро Плаксей неспяшаючы вярнуўся да нас. Толькі на яго твары ўсё яшчэ відаць было быццам застыўшы адпячатак болю.

— Калі вырвала ад выбуху бранiраваныя дзверы ў агрэгатным адсеку і я з пaраненымі таварышамі выпаўз наверх, тут мяне падабралі немцы, а нейкі лекар, які гаварыў і па-руску і па-нямецку, зрабіў мне перавязку і тады мяне накіравалі да іншых паlоненых салдат... Так, гэта тут... — Ён паглядзеў за сябе, дзе дот „Чорны" хаваўся сярод соснаў, і тады прадоўжыў свой расказ. — Палітрука Локцева адвялі вунь туды, — ён паказаў у бок лясной дарогі. — Яго і яшчэ аднаго палітычнага афіцэра з суседняга батальёна. Вызначылі чатырох аўтаматчыкаў. Пала каманда — і яны скасілі гэтых афіцэраў...

— Ці палітрукі мелі нашытую на рукаве чырвоную зорку? — пацікавіўся Аляксандр Лучко.

— Так, — пацвердзіў Пятро Плаксей.

— То я знайшоў яго магілу, — сказаў селянін. — І калі хочаце, раскажу вам, як гэта было...

Вядома, што хочам мы гэта паслухаць, але ўжо іншым разам.

**Віктар Рудчык**

# Куток практычных ведаў

## Як цябе бачаць, так цябе пішуць



Гляньце на сённяшнія здымкі з апошняга нумара „Бурды"! Ці ж не на часе было б цяпер зрабіць нешта такое сваім дзецям-школьнікам?!

Найлепш было б пашыць такую спартыўную куртачку для хлопца і камізэльку для дзяўчынкі з гатовага пікаванага матэрыялу. Калі, зразумела, вам удасца купіць яго ў магазіне. Тады работы было б удвая менш, ды, зрэшты, не кожная машына добра пікуе.

Куртка хлопчыка мае рукаў-рэглан, крыху ніжэй таліі і пры рукавах яна сцягнута гумкай, спераду — на замку, кішэні — укосам, унутраныя.

Камізэлька дзяўчынкі мае таксама спартыўны фасон. Па баках яе — сцягнутыя пражкай паўпаясочкі. Закончана яна матэрыялам іншага колеру, але ў тым жа тоне.

Калі ўжо хочам, каб нашы дзеці выглядалі сапраўды модна, дык варта пашыць ім гэткія рэчы з бардовага, вішнёвага ці ружовага колеру. Можна, а нават трэба, браць колеры нияркія, як бы патухшыя, размазаныя. Мода — дзіўная рэч, але калі яна так хоча... Зрэшты, цана моднага і нямоднага колеру, на жаль, аднолькавая, важна толькі, каб з масы тавару выбраць колер патрэбны і адпаведна спалучыць яго з іншымі часткамі вопраткі.

**Сяброўка**



# ТРЫБУНА чытачоў

## КУЛЬТУРНАЕ СВЯТА

— Ранкі і вечары сталі халаднаватыя, — кажу сваёй жонцы. Люблю з ёю пагутарыць. Толькі гутарка наша наогул канчаецца спрэчкай. — Халаднаватыя, гаворыш? Гэта праўда, — кажа Анюта. — То ж ужо пасля Ганны. А ад Ганкі — халодныя вечары і ранкі. Ужо ж ідзе к восені, а не к лету.

Ага, спамянула Ганну. А гэта ў нас, ведаеце, вялікае свята. У Старакорнінскім прыходзе вялікі празнік. — Памятаеш, Анюта, — звяртаюся да жонкі, — даўней, то было свята! Рыхтаваліся да яго як след, стараліся чым больш выжаць збожжа і мець вальнейшы час. А ўжо напярэдадні свята, на Барыса, трэба было прымясці вуліцу, апрануцца чысцей і пачынаць святкаваць. Людзі ішлі ў царкву ўжо на Барыса, ішлі яны, ішлі адусюль, нават з далёкіх ваколіц. А на Ганну ехалі вазамі. Бывала, столькі наедзе вазоў, што ў Корніне бракавала месца на вуліцы, уладкаваліся тады за вёскай, на Пасавым. Гэта было свята! — Ага, было-было і ёсць, — кажа жонка.

А ці ж гэта цяпер тое, што даўней? Толькі што не працуеш у гэты дзень. На Барыса цяпер ідзе толькі пару жанчын, відаць, больш упартых. А ўжо на Ганну з самога рана чуваць толькі шум аўтамашын і матацыклаў. Пехатой ніхто не хоча ісці. Лянівыя парабіліся. — Ляпей жа ехаць, — кажа жонка.

А той, што хоча выпіць, едзе фурай. І то, відаць, саромячыся. Вось прыйшоў час! — Так, відаць, трэба, — бурчыць жонка. Хаця б вазьмі, як у нас бывала. Напэндзіш гэтай гары і хлебчаш яе віннэ пару дзён па Ганне. А цяпер зусім інакш. Купіш пару бутэлек гэтай, як кажаш, з каласком і хопіць. Матацыклам ці на аўтамашыне многа выпіць не выпадае, калі яшчэ хочаш крыху паездзіць сваёй машынай. А ў свята з бядой не цяжка. Той, што фурай прыедзе, нап'ецца, толькі лейцы аддае жонцы, а сам сядзіць, нос павесіўшы і бармоча — выпрагайце, ці запрагайце... коней. І так даедзе дахаты. Няма ўжо крыкаў, шуму на вуліцы. Ніхто не б'ецца, вокны цэлыя, адным словам — парадак. Людзі пачалі культурна праводзіць свае царкоўныя святы, — закончыла свой маналог жонка. — Культурна, кажаш? Можа й культурна. Гэта мо і праўда, толькі ж шкада ўсё роўна даўнейшых абрадаў. Калісьці, бывала, — кажу, — як сядзем за стол, падвып'ем, а зацягнем „Распрагайце, хлопцы, коней“, ці „Ой, пайду я па-над лугам“, то здавалася, аж сэрца выскачыць. Аж усё кругом дрыжыць. Не адзін з радасці плакаць хацеў. — Ага, хацеў, хацеў, — кажа мая, — толькі тады, як утамболіў у сябе каля літроўкі. А вазьмі цяперашнія танцы — ні к чаму. Хаця сёлета нанялі аж пецярых іграноў. Што яны ігралі — не поймеш, чуваць толькі час ад часу бум-бум-бум, гэта біў адзін ігрун у бубен. Праўду кажуць: б'е як у бубен. А танцуюць, як хто хоча. І ўгару скачуць, і ўбокі і трасуцца, як ад ліхаманкі. — Думаю, што і я б патрапіў танцаваць, — кажу сваёй Анютцы. — Ты ж у мяне і калісьці танцаваў, гаворыць яна ўсміхаючыся. — Бывала, пасля танцаў тры дні адчувала пальцы ног...

І так зноў мы на нейкі час паспрачаліся. Вядома, як з жанчынай.

**Г. Мароз**

## УСЕ ПА ХЛЕБ!

Гэты заклік пішу па просьбе гміны ў Дубічах Царкоўных.

Давялося пабываць на роднай Гайнаўшчыне, ці мо лепш сказаць — на паўднёва-ўсходнім канцы Беласточчыны.

Сярод вялікай колькасці спраў адна вымагае хуткай дзейнасці ўсіх. Менавіта — сабраць поўнасцю хлеб з размоклых нашых палёў. У многіх месцах жыта ляжыць, а ў іншых стаіць у вадзе. Сэрца баліць, калі глядзіш на гэта, калі бачыш, як марнуецца хлеб. І змарнуецца яго многа, калі не схопяцца за косы, за сярпы ўсе, хто толькі можа. Асабліва патрэбны тут маладыя сэрцы. Няхай ніхто з нас не глядзіць на іншага, няхай не слухае слоў: „Ат, неяк там будзе“. Пэўна, што неяк будзе. Але як?

Няхай кожны з нас, хто мае сілы і вялікае сэрца, паможа сялянам сабраць збожжа ў неспрыяльнае надвор'е, тым больш, што бульба і іншыя расліны гніюць.

Усе на ўборку хлеба! Усе чакаем яго. Бальніцы, школы, старыя і малыя, якія самі не могуць пайсці папрацаваць. Усе на поле!

**Васіль Петручук**

## КАЛЯ ПУШЧЫ

Ужо другі год падрад пабывалі ў Нараўцы піянеры з літоўскага горада Каўнаса. Яны тры тыдні былі тут у лагеры. Гэта адбываецца як абмен паміж беластоцкай і ковенскай фабрыкамі мэблі. З Літвы прыехала 5 хлопцаў і 16 дзяўчынак. Яны пазнаёміліся з гісторыяй Нараўкі, прыгожай ваколіцай, пушчай і ракой. Пабывалі таксама ў Белавежы, Аўгустове, Беластоку і Варшаве. У Нараўцы сустрэліся з мясцовай моладдзю. Асабліва запамяталася сустрэча ля кастра на паляне ў Свінароях. Тут пад дубамі школьнікі спявалі беларускія, польскія, рускія і літоўскія песні. Арганізатарам сустрэчы былі гарцэры на чале з камендантам гуфца Яўгенам Янушкевічам. Сардэчна прайшоў абмен сувенірамі і значкамі.

**Аляксандр Закройшчык**

## ДОБРЫ МАЙСТАР

У сяле Крывяцічы Арлянскай гміны кавальска-слёсарскую майстэрню вядзе Ігар Рыбачук. Праводзіць ён рамонт сельскагаспадарчых машын, куе коней. Можа правесці водаправод і каналізацыю ў жыллёвым будынку і ў гаспадарчым.

Людзі з Крывяціч і навакольных сёл задаволены яго працай, бо выконвае ён усё вельмі добра. Ігар Рыбачук застаўся на гаспадарцы бацькоў (раней працаваў у горадзе). Мае ўласную аўтамашыну і вялікія планы адносна гаспадаркі.

**Іван Кірызюк**

## У АДРАС „ГАРТЭКСУ“ МАЛОЕ ПЫТАННЕ

Сустрэўся я з сябрам з Кляшчэляў Юркам Т. Ён кажа: „Аб усім ты пішаш, напішы і запытайся, чаму сямяціцкі „Гартэкс“ абмяжоўвае сваю кантрактацыю садавіны і гародніны толькі да найбліжэйшай сямяціцкай ваколіцы. Мы таксама вельмі ахвотна кантрактавалі б гародніну ды іншыя сельскагаспадарчыя плёны“. Падумаў я, што сапраўды варта гэтае пытанне задаць „Гартэксу“ ад шырэйшага круга зацікаўленых гаспадароў. Просім на яго адказаць нам задавальняючы. **(ус)**

**Па знаёмых дарогах**

## ПРА „НІВУ“

Праязджаю па знаёмых дарогах, успамінаю мінулае. Сустракаю калегаў, з якімі калісьці самагонку піў, а цяпер ні ты яго, ні ён цябе не пазнае адразу. Усё ж мяне там больш помняць, чым я. Адзін другому паказваюць: вунь там, маўляў, пайшоў Васька Мазурыкаў, той што піша ў „Ніву“.

Гэтак тыя, што „Ніву“ чытаюць. А тыя — што не, зусім мяне забылі. Напрыклад, еду з Дубіч Царкоўных у Орлю. Конь з ланцугом пераходзіць мне дарогу. Затрымліваюся, каб прапусціць каня, і бачу — каля дарогі стаіць чалавек. — Вы з Рудутаў? — Так. — А як ваша прозвішча?— Мак. — Мяне завуць Вася Петручук, я з Грабаўца. Прозвішча вам знаёмае, калі чытаеце „Ніву“. — Васька... Васька... З Грабаўца... Прызнаецца, што „Нівы“ не чытае, але цяпер выпіша, „калі ты з Грабаўца ў яе пішаш“.

Пытаю, як жыве Дзёмка, Уладзік Троц, Ванька Троц, Ванька Майстровіч і Мішка Сэмэнуў. — Жывуць добра, усё ў парадку, браток. А жніво будзе цяжкое, бо ўсюды грузка. Трэба косамі і сярпамі. — А яшчэ хаця сярпы ў вас ёсць, не павыкідалі? — ГС новыя даў, абы толькі людзі жалі. — Варта было б калісьці сустрэцца ў вёсцы і пагаварыць, — кажу. — А варта, варта калі-небудзь святам. Мы ж калегаваліся. Я з 20-га, але як прыстаў да кавалераў, то з імі хадзіў у Грабавец на забавы. — Ну, усяго добрага, прывет хлопцам. — Усяго добрага, прыязджай і „Ніву“ я ўжо буду чытаць.

*

Гайнаўка. Раніца. Людзі ідуць на працу, а я абыходжу кругом танк-помнік, які стаіць на скверы каля Тартака. Тут нехта мяне пазнае. Падыходзіць і пытае, ці я — гэта я. Калі пацвярджаю, тады ён: „Ну, брат, даёш! Я „Нівы“ не чытаў, але калісьці ў працы прачытаў Вайсковіча пра Гайнаўку і тваё „З маёй званіцы“. Спадабалася і цяпер купляю. Цікавы таксама „Буг у агні“.

*

Карыціска. Ваня Аляксеюк з Гайнаўкі: „Надта люблю чытаць у „Ніве“ вашы фельетоны. Яны ўзяты проста з жыцця і смешныя. Дужа людзей цікавіцца гэтым і пачалі выпісваць „Ніву“. Мне радасна на сэрцы зрабілася.

## ПРА ХЛЕБ

Начальнік гміны ў Кляшчэлях: „Гэта вы пісалі ў „Ніве“ пра наш хлеб? — Я. — У-у, братка, наш кіраўнік ГС-у насіў яе ў кішэні і ўсім паказваў. Добра вы зрабілі, што напісалі, бо наш хлеб варта пахваліць.

*

Орля. Пякарня. Зайшоў я туды, каб купіць пірог.

Пірага не было, але калі хлопцы даведаліся, што гэта я пахваліў у „Ніве“ іх хлеб, далі мне цудоўны гасцінец — буханак цёплага, духмянага, арлянскага хлеба!

**Васіль Петручук**

## У ДУБІЦКІМ ДЗЯЦІНЦЫ

У час школьных канікулаў, калі ўсе вучні адпачываюць, у школе ў Дубічах Царкоўных быў створаны дзяцінец для тых дзяцей, якія праз год пойдуць у першы клас пачатковай школы. Гэта палёгка для бацькоў (бо летам, як ведаем, у вёсцы многа работы). Маладая, прыгожая выхавацельніца Ірэна Несцярук з Дубіч Царкоўных вельмі добра глядзела дзетак. Навучыла дзяцей многім карысным гульням. Дзеці вывучалі вершы і першыя літары.

Нельга не сказаць і пра кухарку, якая варыла страву малышам — Анну Тафілюк. Яна майстар кухні, што не зробіць — усё смачнае. Такая форма апекі над дзецьмі прыдалася б усюды на вёсках, ды каб і даўжэй працягвалася, недзе да кастрычніка, пакуль адбываюцца апошнія работы ў полі.

**М. Панфілюк**

## ГАНДАЛЬ ПАТРАБУЕ

Аб чаромхаўскім чыгуначным буфеце на станцыі пісаў я не адзін раз. Былі праблемы. Трэба было, напрыклад, уладзіць, каб у буфеце былі непатрэбныя спажывецкія прадукты, па даступных рабочым цэнах. Кляшчэлеўскі ГС выканаў свае абавязкі.

Цяпер у буфеце ўсяго ўдосталь (і яды і напіткаў). Пастаўкі хлеба і булак, а таксама малочных прадуктаў больш-менш адбываюцца рэгулярна. Ды выйшла іншая праблема. Калі адыйшлі дзве прадаўшчыцы, буфет пачаў працаваць ад 8 да 19.30 гадзіны. Чыгуначнікі, якія прыходзяць на начную службу, і начныя падарожныя ўжо ад гадзіны 20 да 8 раніцы не могуць купіць булачку ці напітку якога. Калі я ў гэтай справе звярнуўся да прэзаса ГС Ніны Пятэльскай, яна мне сказала, што чаромхаўскі буфет мог бы працаваць круглыя суткі, каб былі яшчэ дзве прадаўшчыцы. Але ў Чаромсе, на жаль, цяжка знайсці прадаўца. І вось у чым бяда!

**(ус)**

## У ГРАМАДСКІМ ПАЧЫНЕ

Жыхары Чаромхі і ўсіх чыгуначных прадпрыемстваў далі добры прыклад грамадскай працы. У ліпені быў арганізаваны грамадскі пачын пры пабудове агароджы каля чыгуначнай прыёмнай, гаража ў гэтым жа месяцы і пры ўпарадкаванні ўсёй плошчы. Моладзь і ўсе аматары спорту працавалі пры пабудове спартыўнай пляцоўкі каля паравознага дэпо. Працавалі дружна.

*

Добрым прыкладам грамадскай працы чыгуначнай Чаромхі з'яўляецца пабудова пажарнай рамізы. Гэта чыновая інвестыцыя, яе кошт 2.600 тыс. зл. Усе пажарнікі гміннай арганізацыі абавязаліся ў грамадскім пачыне памагаць аж да канца пры пабудове гэтага будынка. І для прыкладу: цэглу грузіла ў маі ў Ляўкове-станцыі 9 асоб, а ў Чаромсе яе разгружала 12 асоб. Людзі чакаюць цяпер цэменту, каб пачаць закладаць фундаменты. **(ус)**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

На дарозе каля вёскі Паканева, гміна Мілейчыцы, матацыкліст ударыў у бетонны стоўбік і перакуліўся ў роў. Забіўся на месцы.

А на жалезнай дарозе паміж Беластокам і Элкам з прыадкрытых дзвярэй апошняга вагона выпаў чалавек і забіўся на месцы.




...за Кляшчэлямі, мо кіламетр па шашы, якая ідзе ў Сямяцічы, нейкі грузавік згубіў адну сценку з гатовых элементаў, з якіх будуюцца дамы. Гэтая сценка ляжыць на абочыне дарогі больш як месяц і ніхто не звяртае на гэта ўвагі. Гэта рухлівая дарога. Ёю праязджаюць таксама і розныя начальнікі.

А якая ж абыякавасць пануе ў нас адносна ўсяго, што датычыць дзяржаўнага і грамадскага дабра! Ведаем, якая бяда ў нас з цэментам. А тут ляжыць гатовы вялікі будаўнічы элемент і нікому раптам ён непатрэбны. Вывезлі б хоць далей яго, у нейкую яму, каб вока не рэзаў чалавеку!

**П. Д.**




### КУДЫ ІДЗЕШ, ЧАЛАВЕК?

*калі са страшнай думкі*
*праўда стане*
*нашай зямлі прыдзе*
*вялікае кананне*

*не з іншае планеты*
*што нібыта калісьці*
*хацелі заваладаць*
*каб нас усіх панішчыць*

*нічога з нашых думак*
*земляны чалавеча*
*бо сам сабе спяшаеш*
*хутчэй знайсці канец*

**Галіна Івацік,**
Гайнаўка

## НАША ПОШТА

**Дамініка Івацік.** „Прачытала я „Ніву“ № 22. Як радасна ў „Ніве“ напісаў М. Панфілюк! Няўжо маё пісанне так ацэньваюць у „Ніве“? А я пішу і думаю: ах Божа, з майго пісання будуць смяяцца. Ды калі атрымала „Ніву“ і прачытала, што напісаў Панфілюк, то радасна на душы стала. Думаю, чаму я з маладых лет не пісала... Прачытала яшчэ ў „Ніве“ аб народнай абраднасці, пісаў Міхась Шаховіч. Як калісь елі людзі? Памятаю, пойдуць жаць, на абед не прыходзяць. Прыходзіць з поля бабуля, налівае ў двайнікі — у адзін гаршчок боршч, у другі кулеш. Два гаршкі былі злеплены, зроблены з гліны. Бярэ яшчэ бабуля саланіну і хлеб, і ўсё. А як хадзілі, што на нагах насілі? Башмакі, пашытыя з свайго тканага сукна. Мой тата працаваў у судзе. Суд быў у сяле Клейнікі. Працаваў два дні ў тыдзень. Падвечар бяжым тату выглядаць. Ідзе наш тата, чобаты перавязаны вісяць на плячах. А ногі босыя. Калі мы заехалі ў Сібір, там былі дзве школы. Я распісацца не ўмела. Задалі нам вывучыць верш на памяць:

Уж как я свою каровушку люблю,
Сытного пойлица каровушке налью,
Чтоб была сыта каровушка моя,
Чтобы сливочек Бурёнушка дала.

Я ўстала і пытаю: „Господин учитель, как то каровушка может дать сливок, у нас сливки растут на дереве“. Ён мне ў адказ: Садись, дура“. Потым мы даведаліся, што сліўкі гэта смятана. Дзякую вам за кніжку Я. Коласа. Многа цікавага прачытала. Жадаю, каб наша „Ніва“ шырэй развівалася“.

**Аляксандр Снарскі.** Вельмі заахвочваем пісаць часцей. Станьце нашым карэспандэнтам.

**Пазнаёмімся.** Хачу перапісвацца з сябрамі з БССР, з горада Гродна і Мінска. Мне 21 год, працую на заводзе. Адрас: Іван Наумюк, 17-208 Клейнікі, Беластоцкае ваяводства.

Імпартгумар

# ДАМОЎЛЕНАСЦЬ

У самы разгар рабочага дня інжынер сектара выяўлення рэзерваў рабочага часу Антон Лапатухін нечакана ўбачыў загадчыка аддзела Нашчокіна. Гэта адбылося ў магазіне „Сельскагаспадарчая кніга“, дзе з выпадку канца квартала прадавалі „Трох мушкецёраў“.

Антон хацеў непрыкметна прабрацца да выхаду, але раптам убачыў, што Нашчокін ідзе да яго. Лапатухін збялеў і ў думках развітаўся з блакітнай марай аб павышэнні акладу на дзесяць рублёў.

— Антон Міхайлавіч, — ціха сказаў загадчык. — Прапусціце наперад, я ў хвасце, а кнігі, кажуць, канчаюцца.

— Калі ласка, — збянтэжана прашаптаў Лапатухін і з гатоўнасцю пасунуўся.

Але тут пачулася некалькі галасоў абурэння:

— Мужчына ў цёмных акулярах, не прыстройвайцеся, сумленне трэба мець, вы ж не стаялі!

Тады Лапатухін уступіў сваю чаргу начальніку і, спаслаўшыся на занятасць, заспяшаўся на работу.

Вярнуўшыся з магазіна, загадчык аддзела выклікаў Лапатухіна.

— Антон Міхайлавіч, вы часта бываеце ў кніжных магазінах?

— Гэта ўпершыню. Даруйце, калі ласка, больш ніколі.

— Ды я не ў тым сэнсе, Лапатухін...

— Даю вам слова гонару, Міхаіл Пятровіч. Цяпер на службе буду займацца выключна выяўленнем рэзерваў рабочага часу.

— Што вы ўсё пра адно? Надакучыла, Лапатухін! Я вас выклікаў, уласна кажучы, вось чаму: калі будуць даваць па два экземпляры — бярыце і на мяне. Дамовіліся?

— Дамовіліся, — з палёгкай уздыхнуў Лапатухін і пайшоў у кнігарню.

**Барыс Рабенькі**



*Сямейны тэлефон.*



**Іх мядовы месяц быў такі салодкі, што іх пакусалі пчолы.**






### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Людмілы Карпінскай змяшчаем песню

## Słodkie fijołki

**z repertuaru Sławy Przybylskiej**
**słowa: B. Choiński, M. Dagnan**
**muzyka: Zbigniew Ciechan**

Słodkie fijołki,
**słodsze niż wszystkie róże...**
Calutkie wzgórze,
od stóp do głów,
zmieniło się w słodki bukiecik,
ach... ach... ach...

Ten lasek liściasty, gdzie spotkać się z nim
wybiegłam, gdy mgiełka wiosenna się snuła
wstążeczką wśród grabów zwyczajnych, jak dym
i muszki bzykały, rozkwitły nam dziś...
Nie wzdychaj, najdroższy, za dzionek lub trzy
**zakwitną turzyce, łuskiewnik różowy**
i jaskier kosmaty, konwalia i szczyr,
ziarnopłon wiosenny, i wierzaj mi, że...

Viola silvestris,
**słodsze niż wszystkie róże,**
zgasną w powodzi
zielonych traw,
lecz będą się długo...
Słodkie fijołki,
słodsze niż wszystkie róże,
zgasną w powodzi
zielonych traw,
lecz będą się długo pamiętać,
ach... ach...

Ten lasek liściasty, gdzie spotkać się z nim
wybiegłam, i gdzie mnie całować próbował,
tymczasem powoli zamienił się w gąszcz,
w dyskretny raj z chmurą komarów.
Ach, wierz,
że wonna marzanna ni bluszcz, co się pnie,
ni zerwa kłosowa, ni leśny sałatnik,
ni żankiel zwyczajny, irysy, ni chmiel
nie dadzą nam tyle, co fijołki te.

Viola silvestris,
słodsze niż wszystkie róże,
co kryły wzgórze
od stóp do głów,
co nas tu zwabiły...
Słodkie fijołki,
**słodsze niż wszystkie róże,**
calutkie wzgórze,
od stóp do głów,
zmieniło się w słodki bukiecik,
**ach... ach... ach... ach....**

### НЕ БРАЎСЯ

Прыйшоў задрыпанец з работы і сядае есці, а жонка і кажа:

— Чаго ты сядаеш есці, а рук не памыў?

— А навошта іх мыць, калі я на рабоце ні за што не браўся!



### УПІСАНА

— Што гэта ў цябе, Яська, на носе сядзіць?

— Барадаўка.

— Чаму ж ты яе не звядзеш?

— Нельга, яна ў пашпарце ўпісана, за гэта, братка, падзеш!





*Без слоў.*

## Асобісты падыход

Дырэктар быў шчыры,
Карэктны на дзіва,
Прыветлівы, сціплы
І вельмі праўдзівы.
Бухгалтары, намы,
Касіры-жанчыны
Казалі: „Ён самы
Сапраўдны мужчына“.
І розных пахвал
Гаварылі багата...
Чакалі яны
Падарункаў да свята.
Дырэктар хоць быў
Чалавекам тут новым,
Жаночае „хобі“
Пазнаў да асновы.
За кошт свой да свята
І не без прычыны,
Купіў падарунак
Для кожнай жанчыны.
— Вы любіце кнігай
Штодзень захапляцца,
Вось зборнік для вас
„Без адрыву ад працы...“
— А вас падрамаць
Так і хіліць, мілушка,
Дык вось вам для мэты
Для гэтай... падушка.
— А вас толькі бачу
Каля тэлефона.
Таму і купіў вам
На пошце талоны.
— Чужыя сакрэты
Карціць вам падслухаць,
Вам спецапараты
На кожнае вуха...
Дырэктар здзіўляўся,
І не без прычыны,
Нібыта не тыя
Былі ўжо жанчыны.
Няма ў магазінах іх,
Спаць не ахвочы,
І кніг не чытаюць
На месцы рабочым...
І трэба прызнацца,
Дырэктар быў рады,
Што ўвёў дысцыпліну
Без грозных загадаў!

**Аляксей Гарэлік**



*Па грыбы.*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Свенсану ўдалося пераканаць лекара, што ў яго дрэнны зрок і ён непрыгодны да вайсковай службы. У той жа вечар ён пайшоў у кіно і з жахам убачыў, што побач з ім сядзіць лекар, у якога ён быў раніцой. Некалькі секунд Свенсан ліхаманкава раздумваў, як яму выйсці з далікатнага становішча, потым павярнуўся да акуліста і спытаў:

— Выбачайце, мадам, ці не скажаце, гэты аўтобус ідзе ў Гетэборг?

✻

— Не! — крычыць бацька на дачку. — Не, не, не! Я ніколі не згаджуся на гэта! Аўтамашына ў нас развальваецца, водапровод вечна працякае, дах дзіравы, а ты сабралася замуж за паэта!

✻

— Калі б не ты, — уздыхнула жонка, — мы былі б ідэальнай парай...

**З „Веснікa Задрыпоніі“**
### ВАМ, НАВАСЁЛЫ

Эксперыментальны дом здалі будаўнікі гор. Ачуцінава. У ім усё цудоўна: вокны, дзверы, абоі, сантэхніка... Навасёлам застаецца толькі размясціць усё гэта ў патрэбным парадку ў сваіх кватэрах.

### ПЫТАННЕ ГАПКІ

Ці можна лічыць шалёным чалавека, які шалёна любіць сябе?



*У гэтым сезоне ў модзе брунеткі.*




### ЦІ ТРЭБА МАЛПЕ ЗАРПЛАТА?

На востраве Цэлебес галоўная галіна вытворчасці — збор і збыт какосавых арэхаў. Там расце каля дзесяці мільёнаў какосавых пальмаў, і іх прадукцыя складае найважнейшую частку экспарту. Зборшчыкам даводзіцца самым прымітыўным спосабам лазіць на высокія дрэвы, рызыкуючы зваліцца. Таму гаспадары імкнуліся наймаць работнікаў сярод самых абяздоленых — беспрацоўных, якія, здавалася б, за любую плату гатовы рызыкаваць жыццём. Але потым гаспадарам какосавых плантацый і гэта паказалася неашчадным. Яны пачалі вышукваць больш выгадны спосаб. Так нарадзілася ідэя замяніць традыцыйных зборшчыкаў... малпай. Мясцовыя эканамісты-мудрацы дакладна падлічылі, што прыдбаць і выдрэсіраваць малпаў для гэтай работы абыдзецца куды дзешавей. Ім не трэба плаціць, ды і аб ежы яны самі паклапоцяцца.

З такой прапановай прадпрымальнікі звярнуліся з хадайніцтвам да ўрада правінцыі, і іх ініцыятыва была прызнана слушнай. Прынята адпаведнае рашэнне: купіць некалькі сот малпаў і выдрэсіраваць іх.

Праўда, пакуль што не спыталі ў малпаў: ці захочуць яны мэтанакіравана працаваць на сваіх дабрадзеяў-прадпрымальнікаў?.. Можа здарыцца так, што забяруцца яны на вяршаліны дрэў і пачнуць кепікі кпіць са сваіх гаспадароў, кідаць у іх арэхамі. Тады затраты ўрада на пакупку і вучобу малпаў павернуцца, як у той байцы, мартышкінай працай.




**Не сячы сук, на якім сядзіць твой начальнік. Будзе падаць — на цябе ж і абрушыцца.**